АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

17 - 23 КРАСАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№16 (156)

МАЛАДЗЕЧНА

## Пачалі з паражэння



12 красавіка на мясцовым стадыёне прайшла першая гульня VIII чэмпіянату краіны. Хаця "Маладзечна" і прымала "БАТЭ", гаспадарамі поля лічыліся барысаўчане.

Рознакаляровы, шумны натоўп барысаўскіх фанаў, якія прыехалі ў горад на 5 аўтобусах і размясціліся на сонечных 10 і 11 сектарах, і насупраць — маўклівыя, шэрыя, але поўныя трыбуны з маладзечанскімі балельшчыкамі, як адлюстраванне футбольных спраў у гарадах па розныя бакі ад сталіцы.

Першае паражэнне "Маладзечна" – 1:2.

*Аляксандр ГУЛЕЦКІ.*

*Справаздача аб матчы на 6–й ст.*

АШМЯНЫ

## Хлебазавод зачынены. Усе пайшлі на рамонт

Мясцовы хлебазавод зачынены, і жыхароў горада і раёна гэта хутчэй радуе, чым наадварот. Хаця існуе, на першы погляд, пагроза застацца без хлеба.

Прычынай закрыцця прадпрыемства, як патлумачылі ў Ашмянскім райспажыўтаварыстве, стаў рамонт. Плануецца, што прадоўжыцца ён не меней за паўмесяца. За гэты час тут зробяць дэмантаж старой печы і ўстановяць сучасную хлебапякарную лінію. На набыццё яе ў Расіі выдаткавалі больш за 500 мільёнаў рублёў. Патрэба ў замене тлумачыцца так: хлеб, які будзе выпякацца на новай лініі, стане намнога смачнейшым.

А гэтыя тыдні ашмянцы могуць частавацца астравецкім хлебам, які завозіцца з тамтэйшага хлебазавода.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Хлеб у сумцы паштальёна

Хлеб, што выпякаюць у Смаргоні, прыйшоўся даспадобы многім астраўчанам. Ля машын, дзе ён прадаецца, адразу выстройваюцца чэргі.

Сітуацыю добра пралічылі на раённым вузле сувязі і пачалі гандляваць прадуктам. За дзень паштавікі прадаюць больш за тысячу боханаў. Рэалізацыя хлеба ідзе, пераважна, па вёсках, бо вяскоўцы, а асабліва ў веснавы час, нечастыя госці ў райцэнтры.

Цяпер разам з любімымі газетамі многія маюць магчымасць набыць бохан духмянага хлеба. *Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Пазняк, Пастухоў, Карпенка

Горад становіцца Мекай для палітычных дзеячаў краіны. На чарговую сустрэчу, арганізатарам якой выступаў фонд "Прававой дапамогі", у актавай зале музычнай школы сабралася больш за 50 чалавек.

Яна праводзілася ў межах прававой дапамогі для насельніцтва, а перад прысутнымі выступілі юрыст **Міхаіл Пастухоў** і дэпутат РБ 13 склікання **Генадзь Карпенка**. Першы распавёў пра Канстытуцыю і парушэнне правоў чалавека на Беларусі. Другі канцэнтраваў увагу смаргонцаў на няпростай палітычнай і эканамічнай сітуацыі. *Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АШМЯНЫ

## Кожнаму па тэлефоне

Праблема ўстаноўкі тэлефона для многіх застаецца найпершай. Ашмянцы часта звяртаюцца з падобнымі просьбамі.

Практычна кожнаму з іх начальнік раённага вузла электрасувязі **Віктар Бутрым**, з-за адсутнасці магчымасці, вымушаны адмаўляць. Да канца года праблема не пабачыць свет у канцы тунелю. Спадзяванні сувязістаў і будучых тэлефонаўладальнікаў звязаныя з годам наступным.

Ёсць перспектыўны план па расшырэнні гарадской тэлефоннай сувязі на тысячу абанентаў. Не так доўга засталося чакаць, "каб у нас зазваніў тэлефон".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## На "Вілейку" вярнуліся буслы

Чаму менавіта на "Вілейку"? Таму што іх гняздо знаходзіцца на надпісе "Вілейка", што пры ўездзе з Маладзечна. У народзе кажуць, што гаспадару, у якога паселіцца бусел, будзе спрыяць удача. А калі буслы жывуць на надпісе "Вілейка", то поспех будзе спрыяць усім вілейчанам. *Ігар КІЦІКАЎ.*

# Цукар знікае. Знікне і алей?

***Прадбачыць сітуацыю не могуць нават мясцовыя "міністры" дзяржгандлю. А ў краіне паціху ўводзяцца абмежаванні пры пакупцы прадуктаў харчавання.***

*МАЛАДЗЕЧНА*. За салодкім прадуктам сапраўднае паляванне. У дзяржгандлі яго няма. Ля адзінкавых прыватных гандлёвых пунктаў - на калгасным рынку, прывакзальнай плошчы, побач з "Елгавай" - натоўп. Каштуе цукар (у асноўным, з Польшчы) ад 24200 да 28200.

Дырэктар АТ "Маладзечнагандаль" **Мікалай Вінікаў** запэўніў, што ў дзяржаўны продаж ідзе партыя цукру са Слуцка па 25100. Сітуацыя поўнасцю будзе нармалізаваная пасля 20 красавіка.

Пакуль ідзе працэс высвятлення цэнаў з-за іх неадпаведнасці. Напрыклад, тавар з цукразаводаў ужо каштуе 30 тысяч. А магчымая цана ў продажы не павінна перавышаць 26.

*Заканчэнне на 3–й ст.*



ФОТА IREX/PROMEDIA

ІНЦЫЯТЫВА

## Кацнельсон любіць толькі прыгожае

### і аддае перавагу лазні ў Смаргоні

***АСТРАВЕЦ. Наўрад ці знойдзецца хоць адзін чалавек, які б за апошнія гады мог убачыць старшыню мясцовага райспажыўтаварыства Юрыя Кацнельсона ў гарадской лазні. Бо ён туды не ходзіць. На гэты конт мае свае тлумачэнні.***



- Я чалавек не скваппны, - зазначае ён. - Кожныя выхадныя бяру з сабой сям'ю і еду мыцца ў Смаргонь. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Прыходзіцца ахвяраваць часткай сямейнага бюджэту, але гэта акупляецца. У Смаргоні ў лазні даволі добрыя ўмовы, ёсць саўна, тут прыгожы інтэр'ер. У Астраўцы ж – шэрыя сцены, непрывабны выгляд будынка лазні. І заходзіць не хочацца. Не кажучы пра тое, каб там памыцца.

Юрый Кацнельсон прызвычаіўся да прыгожага, што стала своеасаблівым штуршком для будаўніцтва ў Астраўцы (які многія ў Мінску і Гродне лічаць забытым краем) супермаркетаў. У той час меркаванні пра іх былі розныя, часцей - негатыўныя. Большасць людзей лічыла, што добрага нічога не атрымаецца, бо такія крамы яўна не для нашых людзей. Мясцовыя камерсанты пасміхаліся, нават не ўяўляючы самых сапраўдных канкурэнтаў.

Напачатку мінулага года перад пакупнікамі адчыніў дзверы першы супермаркет з мілагучнай назвай "Ивушка" – перад крамай расце вярба.

*Заканчэнне на 2–й стар.*

РЭАГУЕ "МІНСКАБЛАЎТАТРАНС"

## У аўтобус– электронную касу

***На выступленне "РГ" "Падбяры мяне, аўтобус" ад 27 студзеня адрэагаваў начальнік аб'яднання "Мінскаблаўтатранс" В. Цярэшчанка.***

Спадзеючыся і на далейшае плённае супрацоўніцтва з газетай, ён просіць растлумачыць чытачам аб неабходнасці патрабавання імі ў вадзіцеляў білетаў. Калі ў білеце будзе адмоўлена, у вас будзе поўная падстава для таго, каб звярнуцца да кіраўніцтва аўтапарка. За безбілетны правоз пасажыраў на вадзіцеля накладаецца штраф у памеры 4–х мінімальных заработкаў.

На наш погляд, вельмі важна тое, што, як паведамілі нам у гэтым рэагаванні, сёлета плануецца ўстанавіць на аўтобусах прыгарадных маршрутаў электронныя касавыя апараты. Гэта дазволіць больш якасна фіксаваць паступленне ад пасажыраў выручкі.

**Рэдакцыя.**

ЕЎРОПА–АЗІЯ

## Указальнік на Азію

***ІВЯНЕЦ.*** ДП "Крыніца" вырабляе дарожныя знакі, указальнікі. Ужыванне сучасных тэхналогій адкрыла прадпрыемству выхад на рынак СНД, у краіны Заходняй Еўропы.

Прэстыжны заказ іванчане атрымалі з Казахстана. У новай сталіцы гэтай краіны – Акмале міжнародны аэрапорт будзе абсталяваны прадукцыяй з Беларусі. Тры машыны з дарожнымі знакамі ўжо рушылі ў Азію.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА

*Вікторыя, Маладзечна, СШ№9, 14 год.*

– Мая самая вялікая мара – трапіць у Іспанію. Цікаўлюся гісторыяй краіны, хачу пабываць у Мадрыдзе, пабачыць карыду. Іспанскую мову вывучаю ў школе з 5 класа, вялізную інфармацыю пра краіну атрымала ад настаўніцы **Л. Гурыновіч–Дабранскай.** Хачу стаць настаўніцай у школе. Але спачатку трэба яе скончыць.



ФОТА С.КАПЫЛОВА

## Пішыце ў Канаду

*АШМЯНЫ*, Ад пачатку года на вузле электрасувязі пачала дзейнічаць электронная пошта. Але карыстальнікаў ёю не так ужо і шмат.

Выключэннем з правілаў стала сям'я, якая рэгулярна адпраўляе родзічам пісьмы ў Канаду. Так атрымліваецца намнога зручней і хутчэй.

На мінулым тыдні ў сувязістаў з'явілася яшчэ адна паслуга - карыстанне сеткай Internet.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ




Каляровую паштоўку з відам даваеннай (1914 года) варшаўскай вуліцы Маршалкоўскай выслаў з Варшавы ў панядзелак 5 лютага 1923 года ў фальварак Івонцавічы ля Куранца пані **Э. Гайковіч** блізкі для яе чалавек.

За шмат год аловак выцерся, але можна прачытаць, што аўтар выязджае з Варшавы ў сераду, а ў суботу будзе ў Івонцавічах. Чагосьці (нечытальна) ва ўсёй Варшаве няма, а батыст будзе праз месяц. Хочацца хутчэй дадому, але справы не пускалі.

Сёння ў вёсачцы Івонцавічы паміж Вілейкай і Куранцам ад тых часоў засталіся расці высокія елкі і ліпы, пасаджаныя гаспадаром фальварка, ды панскі дом з абваліўшымся дахам. Старажылы згадваюць яшчэ млын, вядомы ў наваколлі. Прозвішча Гайковічаў наўрад ці хто памятае. Час і бяспамяцтва нашыя робяць жорсткія рэчы.

ПАШТОЎКА З АЛЬБОМА БАРЫСА МАНЦЭВІЧА.

## Сшыткі з Ашмянаў

*АШМЯНЫ*. Асноўнымі відамі прадукцыі, што выпускаюцца ў мясцовай друкарні, доўгі час былі бланкі. Цяпер тут перайшлі на выпуск сшыткаў, якія дарэчы будуць многім школьнікам; займаюцца пераносам камп'ютэрнай графікі на метал па тэхналогіі Гравертона.

Неўзабаве, як гаворыць дырэктар прадпрыемства **Міхаіл Яжэвіч**, друкары плануюць заняцца выпускам газет. Праўда, газеты будуць друкаваць толькі малых фарматаў. Пад гэтыя мэты праз раённы цэнтр занятасці "выбіваюць" паў–мільярдны крэдыт для арганізацыі рабочых месцаў. На выдзеленыя грошы, калі атрымаецца, купяць друкарскі станок і камп'ютэр. Штат друкарні мусіць папоўніцца на пяць чалавек.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

КУЛЬТУРА

## "Велікодны перазвон"

*СМАРГОНЬ*. Канцэрт-віншаванне пад такой назвай пройдзе 20 красавіка на пляцоўцы каля кінатэатра "Космас".

Праграма канцэрта будзе ўключаць у сябе таэтралізаванае прадстаўленне, гульні, забавы, падрыхтаваныя на падставе захаваных народных звычаяў і традыцый.

У канцэрце возьмуць удзел калектывы і выканаўцы метадычнага цэнтра, гарадскога дома культуры і ўстаноў культуры раёна.

## Маладзечанскае музычнае вучылішча прадстаўляе:

- аркестр цымбалістаў (кіраўнік **Аляксандр Кавалёў**) на абласным метадычным семінары кіраўнікоў калектываў народнай музыкі, што праходзіць сёння ў Слуцку.

- аркестр рускіх народных інструментаў (кіраўнік **Тамара Бялькова**) і піяніста, лаўрэата міжнароднага конкурсу імя М. Цвятаевай **Аляксандра Дзяругу** як пераможцаў I тура конкурсу "Студэнцкая вясна-98". 6-9 мая яны прымуць удзел у II туры, што адбудзецца ў Віцебску.

Творчая справаздача харавога калектыву (кіраўнік **Андрэй Спічак**) адбылася 15 красавіка.

Занальны конкурс мастацкай самадзейнасці сярод навучэнцаў прафтэхвучылішча прайшоў напачатку тыдня ў ПТВ-21.

У памяшканні мастацкай школы адкрылася выстаўка акварэляў мастака **Рыгора Мяжуева** з нагоды 40-годдзя аўтара.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

## Захварэлі і не чулі

*МАЛАДЗЕЧНА.* На мінулым тыдні ў музычным вучылішчы мусіла адбыцца сустрэча з **Нілам Гілевіч**[illegible] **Рыгорам Барадуліным**.

На жаль, першы захварэў, а другі, відаць, не паехаў у Маладзечна з салідарнасці.

Хаця нядобразычліўцы сцвярджаюць, што вядомыя літаратары не ведалі пра мерапрыемства. Інакш, напэўна, усё ж прыехалі б.

*Аддзел інфармацыі.*

# Кацнельсон любіць толькі прыгожае...




*Разнастайныя тавары задаволяць не толькі мясцовага пакупніка.*



*Супермаркет "Цэнтральны".*

ФОТА АЎТАРА.

Тыя, каму давялося пабачыць супермаркеты ў Польшчы, канстатавалі: усё зроблена, як мае быць. Другі супермаркет - "Цэнтральны" - чакаць сябе доўга не прымусіў і летам сустракаў сваіх першых наведвальнікаў. Працэс, як казаў Гарбачоў, пайшоў.

- Навошта патрэбныя такія крамы?

- Нашыя людзі ніколькі не горшыя за немцаў ці амерыканцаў. Яны таксама заслугоўваюць, каб купіць патрэбныя тавары ў прыгожай краме, заслугоўваюць уважлівага стаўлення з боку прадаўцоў, - гаворыць Юрый Міхайлавіч. - Адной з задумаў пры пачатку будаўніцтва супермаркетаў было жаданне прызвычаіць нашых людзей да нармальнага абслугоўвання, элементарнай культуры. Была пэўная рызыка "вылецець у трубу", бо на будаўніцтва выдаткавалі немалыя грошы, а які прыбытак ад іх будзе - ведаў хіба адзін бог. Але ж першыя месяцы работы паказалі: задума апраўдала сябе. І ў супермаркеты людзі пачалі хадзіць часцей, а тавараабарот у іх павялічыўся ў чатыры разы. Аказалася, каб мець прыбытак, неабходна ўкладаць грошы менавіта ў такія крамы.

Астравецкае райспажыўтаварыства за мінулы год у чарговы раз прызнана лепшым у вобласці. Кацнельсон прычыны бачыць у рабоце ўсяго калектыву і падборы кіруючых кадраў. Дзякуючы гэтым двум фактарам у райспажыўтаварыстве створаны своеасаблівы механізм. Ён, як старшыня, запускае яго, - і работа пайшла. Разумее і падтрымлівае задумы Кацнельсона старшыня выканкома **Мечыслаў Кудырка**.

У хуткім часе старшыня райспажыўтаварыства здзівіць астраўчан яшчэ адным сучасным магазінам. У былых "Культтаварах" і "Мэблі" пачаўся рамонт, які напачатку лета завяршыцца адкрыццём мэблева-гаспадарчага салона-магазіна "Лабірынт". Затым на чарзе кулінарыя, якая ператворыцца ў "беларускі Макдональдс" - пункт хуткага харчавання-бістро. Гэта толькі планы на сёлетні год.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Народ помніць пра святы

*СМАРГОНЬ.* Хаця другі дзень Вялікадня ў каталікоў лічыўся працоўным, свята ўсё ж засталося святам. У мікрараёне Карані аддзел культуры арганізаваў і правёў сцэнарый-абрад "Велікодны перазвон". Пасля адкрыцця гурты валачобнікаў хадзілі па кватэрах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## "... і на дудзе ігрэц"

*ВАЛОЖЫН.* У раённым конкурсе "Лідэр дзіц[illegible] арганізацыі-98" узялі ўдзел педагогі-арганізатары з [illegible]тырнаццаці школ.

Яны майстравалі "падарункі сябру", выступалі ў "тэатры аднаго акцёра", запрашалі ў падарожжа - паказвалі свае здольнасці, без якіх у рабоце ніяк не абысціся.

Перамагла **Вольга Шыян** з СШ №1. Яна атрымала права прадстаўляць раён у абласным конкурсе.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Наша сістэма аховы здароўя першая. Па "халяўнасці"

***ВАЛОЖЫН. Некалькі месяцаў, як Уладзімір Галыгін узначальвае раённае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне (РТМА). Хто, як не галоўны ўрач, прычым свежым поглядам, можа прааналізаваць сітуацыю ў раёне, забруджаным радыяцыяй.***

- Статыстыка мала чым адрозніваецца ў параўнанні з іншымі раёнамі, - гаворыць ён, - у нас у забруджаных вёсках 7% здаровых дзяцей. Але сцвярджаць, што гэта толькі з-за радыяцыі, нельга. У чыстай мясцовасці паказчык усяго ў 2 разы лепшы. Такія сумныя вынікі даюць і радыяцыя, і сацыяльныя фактары, і антысанітарыя - усё разам. Прычым алкагалізм, педыкулёз з гэтага букета значна выдзяляюцца.

*- Алкаголікі вашы пацыенты таксама?*

- Па два, тры тыдні яны знаходзяцца ў рэанімацыі. Трапляюць з белай гарачкай. Уводзім ім вітаміны, антыбіётыкі. Кормім, даглядаем. Але ж шкада на іх сродкаў і ўвагі. На нармальных хворых часам не хапае. Наша сістэма аховы здароўя лепшая ў свеце па "халяўнасці". Пацыент ні за што не плаціць, і ўсе яму вінаватыя.

*- А што тут адмоўнага? Задача медыкаў лячыць.*

- Акрамя лячэння, вырашаем розныя сацыяльныя праблемы. Па раёне ў бальніцах ствараем ложкі сацыяльнага догляду. Напрыклад, у Пяршайскай бальніцы іх пяць. Людзі састарэлыя, у асноўным, адзінокія могуць там знаходзіцца неабмежаваны тэрмін. З імі заключаецца дагавор. 70% яны плацяць ад сваёй пенсіі. А за гэта харчуюцца, лечацца, спяць на чыстай бялізне і ў цяпле. Дзеці з няўдалых сем'яў таксама часцяком у нас бавяць час. Напрыклад, бацькі няма, а матулю забралі ў медвыцвярэзнік ці "на суткі". Трапляюць малечы, якія акрамя бульбы і салаты з адуванчыкаў з нараджэння нічога не елі.

*- Медыкі штодзень сутыкаюцца з чужым болем, бядою. Наколькі страта нервовых клетак кампенсуецца матэрыяльна?*

- Пачатковая стаўка тэрапеўта стацыянара 1787 тысяч рублёў, хірурга палiклінікі - 1740. Малады спецыяліст не зможа сам сябе ўтрымліваць. З усімі надбаўкамі ў нашай сістэме можна зарабіць пяць з паловай мільёнаў. Але гэта мяжа.

*- Адчуваеце недахоп у кадрах?*

- Зразумела. У медвучылішчах ведаюць, што ў Валожыне з жыллём цяжка. Калі адправіць на пенсію (ужо тэрмін) некалькі ўрачоў Ракаўскай бальніцы, там застануцца толькі 2 спецыялісты з вышэйшай адукацыяй.

*- Як на Валожыншчыне з медыкаментамі? Звычайным лязом аперацыю ніколі не рабілі?*

- Было некалькі год таму. Сёння можа ўзнікнуць праблема з аднаразовымі шпрыцамі. А так з забеспячэннем добра. У групе антыбіётыкаў 5 тысяч найменняў. Зразумела, нешта з іх у нас заўсёды знойдзецца.

*- Што тычыцца замежных модных медпрэпаратаў. Ці былі кур'ёзы ва ўжыванні іх насельніцтвам?*

- Рэклама лекаў павінна праходзіць не праз тэлебачанне, а праз аптэчную сетку. Быў выпадак, калі жанчына "Смектай" лячыла апендыцыт. Непаўналетнія наглыталіся супрацьзачаткавых таблетак і ледзь не атруціліся. Бабулі накуплялі "Клафеліну". Палохае, у якіх дозах будуць ужываць.

*- У раёне актыўна гоняць гарэлку. Хто п'е, звычайна наркотыкі не ўжывае.*

- Зарэгістраваных наркаманаў няма. Дыхлафоснікаў таксама. Хутчэй за ўсё, справа не ў добра наладжанай прафілактыцы. Проста ў раёне мала моладзі. Бо "на іголку садзяцца" год у 14-16.

*- У сістэме аховы здароўя шмат праблемаў, вы самі пра іх і гаварылі. Што найперш трэба вырашаць?*

- Наша сістэма нагадвае карыесны зуб. Рваць нельга, трэба лячыць. Таму і праблемы вырашацца павінны ў комплексе, а не па адной.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Возьмемся за рукі, сябры

***ВІЛЕЙКА. Сустрэцца з дабрадушным кракадзілам Генам, мудрай чарапахай Тарцілай, гаварлівымі папугаямі і сімпатычнымі сараканожкамі, павандраваць па казачнаму лесу з яго незвычайнымі насел[illegible]ікамі і завітаць у госці да бабулі–Майстрыхі змогуць юныя і дарослыя жыхары Вілейкі.***

У выставачнай зале мясцовага гісторыка–краязнаўчага музея пачала працаваць выстаўка "У свеце рознакаляровых цудаў". Яе экспанаты выраблены ўмелымі рукамі выхаванцаў студыі "Мяккая цацка" і "Рукадзельніца" гарадскога Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей. Выстаўка будзе працаваць да пачатку лета і стане своеасаблівым класам для вілейскіх школьнікаў.

Цэнтр эстэтычнага выхавання існуе ў Вілейцы з 1990 года. У яго студыях і на ўроках, якія вядуць улюбёныя ў сваю справу настаўнікі, займаюцца больш за 800 хлопчыкаў і дзяўчынак. І няхай, як прызналася падчас адкрыцця выстаўкі дырэктар Цэнтра **Таццяна Захарыч**, не ўсе з іх у дарослым жыцці стануць музыкантамі ды артыстамі, дызайнерамі і майстрамі народнай творчасці, атрыманыя ў дзяцінстве веды і набытыя навыкі дапамогуць спасцігнуць і палюбіць свет прыгожага.

Адкрыццё выстаўкі ў аднолькавай ступені можна назваць святам дзяцей і дарослых: стварэнню святочнай атмасферы садзейнічалі спонсары, у ліку якіх дзяржаўныя прадпрыемствы і прыватныя фірмы, грамадскія арганізацыі і гарадскія ўлады. Яны ж і накрылі "салодкі" стол для юных майстрых і іх педагогаў.

*Віталь ПАШУК.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-15.*

## Як растуць бананы

Адно з першых месцаў, куды гасцінныя гаспадары вязуць сваіх візіцёраў, – Батанічны цэнтр. Зімою гэта папулярнае месца адпачынку многіх гараджанаў і гасцей Дэ Мойна. Давялося тут сустрэцца і траім з маладзечанцаў – у першы ж выхадны дзень яны з'явіліся тут з розных сем'яў.

Студзень, мінус за вокнамі, а ў квітнеючым садзе над вялікім купалам птушкі пяюць, цёпла. Празрыстыя, хаця і таўсцючыя, шкляныя рамы ўзмацняюць рэзкі кантраст з зімою ды снегам за вокнамі.



*Падобныя калючкі, кажуць, таксама служаць сыравінай для вырабу "тэкілы".*



*Так выглядае цэнтр "з вуліцы".*

ФОТА АЎТАРА.

Тутдаведаліся (прынамсі, аўтар), як растуць бананы. Пабачылі рыбаў памерам з нашых парасятаў (зразумела, вада скажае выгляд прадмета, павялічвае яго, але ж не да такой ступені).

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 8.04 | 15.04 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 79,8 | **82,6** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 270 | **260** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | адсут. | **80,9** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 41 | **40** |
| Рыс | 1 кг | 23,1 | **28** |
| Цукар | 1 кг | 28,5 | **24,2** |
| Грэчка | 1 кг | 26,5 | **30** |
| Алей | 1 л | 52 | **57** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 23,9 | **25,9** |
| Маянэз | 250 г | 12 | **13** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 62 | **65** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 21 | **23** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 24,4 | **26,2** |
| Лімоны | 1кг | 64,8 | **58** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 25 | **30** |
| Масла | 1 кг | 75 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **40** |
| Малако | 1 л | 9 | **8** |
| Бульба | вядро | 80 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 32 | **35** |

ДЗЕЦІ, ДАРОСЛЫЯ, КАНТАКТЫ

## Старшыня выканкома прыйшоў у школу

**СМАРГОНЬ.** У раёне – праблема з кадрамі на вёсцы. Некаторыя гаспадаркі адчуваюць недахоп не толькі вадзіцеляў, механізатараў, але і аграномаў, заатэхнікаў. Таму старшыня райвыканкома **М. Кавалёў** называе сваіх падначаленых на своеасаблівую агітацыю моладзі. А зусім нядаўна на асабістым прыкладзе паказаў, як гэта трэба рабіць.

Ён наведаў Смаргонскую школу-гімназію №4, дзе адбылася сустрэча са старшакласнікамі. На ёй вучні з першых вуснаў даведаліся не толькі пра праблемы ў сельскай гаспадарцы, але і развіцці прамысловасці свайго горада. Старшыня адказаў на разнастайныя пытанні.

Падобныя сустрэчы запланаваныя і ў шэрагу іншых школ.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Бліжэй стала Амерыка

***МАЛАДЗЕЧНА.** Два дні працавалі ў сярэдняй школе №6 настаўнікі з амерыканскага штата Вашынгтон.*

Выкладчыкі **Свонсан, Хувэнэн і Морысан** наведалі горад як прадстаўніцы міжнароднага руху "Педагогі за мір і ўзаемаразуменне". Не быў выпадковым і выбар навучальнай установы: СШ №6 Маладзечна высока каціруецца ў сістэме агульнаадукацыйных школ краіны. Што і адзначылі заакіянскія педагогі. А яшчэ іх уразілі гасціннасць маладзечанцаў і вялікі размах новабудоўляў. Пасля заняткаў з пачаткоўцамі і вучнямі старэйшых класаў госці адзначылі здольнасць дзяцей да вывучэння англійскай мовы і нават абмяняліся з некаторымі вучнямі адрасамі.

*Аддзел інфармацыі.*

## А на рынку ў Ждановічах...

***"РГ"** пісала, што з Вілейкі наладжаны рэгулярны аўтобусны маршрут на рынак у Ждановічах. Да Вялікадня там можна набыць (цэны ў тысячах рублёў):*

| | |
|---|---|
| Ікра чорная (113 г) | 500 |
| Кета (1 кг) | 350 |
| Стронга (1 кг) | 800 |
| Вугор (1 кг) | 950 |
| Дыня (1 кг) | 120 |
| Бульба, Польшча (1 кг) | 40 |
| Перац салодкі (1 кг) | 100 |
| Радыс (140 г) | 30 |
| Трускалкі, Ісп. (0,5 кг) | 130 |

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СПАЖЫВЕЦ І ЯГО ПРАВЫ

## Трактар па гарантыі

***Савет Міністраў 27 сакавіка прыняў пастанову, якой унёс змены ў прынятае 8 лістапада 1995 года Палажэнне аб гарантыйным тэрміне эксплуатацыі складанай тэхнікі і абсталявання.***

Устаноўлена, што аднаўленне тэхнікі, што выйшла са строю ў гарантыйны тэрмін, праводзіцца вытворцам або прадаўцом за кошт уласных сіл і сродкаў у 14-дзённы тэрмін з дня накіравання яму набытчыкам пісьмовага паведамлення. Можна парэкамендаваць накіроўваць яго заказным пісьмом або тэлеграмай. У такім выпадку на руках застанецца доказ звароту, які спатрэбіцца для далейшага спагнання матэрыяльнага ўрону.

Калі ж прадукцыя не вытрымала гарантыйнага тэрміну эксплуатацыі ў перыяд з красавіка па кастрычнік, то аднаўленне павінна рабіцца ў 5-дзённы тэрмін.

Уладальнік сапсаванай тэхнікі мае права пры атрыманні пісьмовай згоды вытворцы або прадаўца ці пасля заканчэння 15-(5)-дзённага тэрміну ліквідацыі імі выяўленых дэфектаў правесці аднаўленне прадукцыі ўласнымі сіламі за іх кошт.

Вельмі істотнае новаўвядзенне заключаецца ў тым, што страты цяпер будуць спаганяцца незалежна ад тэрмінаў аднаўлення, указаных вышэй. Напрыклад, калі камбайн выйдзе са строю, то адразу можна будзе арандаваць такі ў суседа, а арэндную плату потым спагнаць з вытворцы або прадаўца.

*Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ.*

## Дзвесце пяцьдзесят пад свежую рыбку

***ВАЛОЖЫН.** У рэспубліцы аб'яўлены 2-месячнік аховы рыбы, якая ідзе на нераст. У раёне лоў рыбы дазваляецца толькі на Сакаўшчынскім вадасховішчы. Прычым з берага, адной вудай і адным кручком.*

Аднак многія аматары лічаць, што законы для іх яшчэ не пісалі. Толькі за апошнія дні ў ходзе рэйдаў затрыманы шасцёра мясцовых жыхароў і два пенсіянеры з Мінска. Кожнага аштрафавалі на 250 тысяч рублёў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Піць сталі менш

***ВАЛОЖЫН.** Цяжка ідуць закупкі малака ў насельніцтва. Яго цана 4 тыс. за кілаграм не задавальняе здатчыкаў. Рынак прапануе амаль у 2 разы больш.*

За І квартал вяскоўцы прадалі дзяржаве малака на 38,1% меней, чым летась. Аднак і перабояў з малочнай прадукцыяй у раёне не ўзнікала.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

КАБ БЕЗ ГАРЭЛКІ НЕ ЗАСТАЦЦА...

## "Знакамітая" хата

***МЯДЗЕЛ.** Ні з'ездаў, ні сходаў у ёй не было. Не спыняліся ніякія знакамітасці. Хата як хата, якіх сотні ў вёсцы Нарач. І ўсё ж яе многія ведаюць, нават далёка.*

Спрычынілася да гэтага маланка, якая летнім днём 1987 года паласнула па даху. Узнялося полымя. Суседзі і прахожыя разам з гаспадаром кінуліся ратаваць жыллё, дзе жыў настаўнік мясцовай школы **Віктар Лапцік** з бацькамі.

Пасля моцнага дажджу насупраць хаты на вуліцы ўтварылася вялікая лужына. Вёдрамі, пакуль прыехалі пажарныя, людзі залівалі полымя. Асабліва стараўся дырэктар музычнай школы **Іван Верабей**.

За метраў сто ад гэтага месца ў краме прадавалі спіртное (быў тады дэфіцыт), дык рэдка хто з чаргі кінуўся на пажар, каб не згубіць чаргі.



*Згарэў толькі дах - людзі, што не стаялі ў чарзе, не дапусцілі, каб полымя разгарэлася. Хату адбудавалі, і цяпер яна выглядае так.*

ФОТА АЎТАРА.

**Максім Танк**, які адпачываў на дачы ля Нарачы, пачуў пра гэта і 14 чэрвеня 1987 года запісаў у сваім "Дзённіку": "... калі гарэла хата Лапціка, ніхто не пабег яе ратаваць, каб не згубіць чаргі за гарэлкай, якую тады прадавалі ў магазіне".

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ДЭФІЦЫТ

# Цукар знікае. Знікне і алей?

*Пачатак на 1-й ст.*

***СМАРГОНЬ.*** Цукар у горадзе амаль не прадаецца. А ў патрэбным аб'ёме – ужо 2 месяцы.

Дырэктар дзяржаўнага гандлёва-камерцыйнага прадпрыемства "Сучаснік" **Мікалай Процкі** гаворыць, што атрымаў загад купляць цукар, дзе толькі магчыма. Спадзяецца на замежны, з дня на дзень у Калінінград мусіць прыйсці параход з цукрам для рэспублікі. Пакуль выгрузяць - пройдзе час. Магчыма, што ўвесь пойдзе на Мінск.

***Гарадзейскі цукразавод (Нясвіжскі р-н), Жабінкаўскі цукразавод (Брэсцкая вобл.).***

У аддзелах збыту ў адзін голас адказалі:

- Сваёй сыравіны няма. Перапрацоўваем камерцыйную. Але гэты працэс спыняецца.

**Камерсант П.**, Маладзечна:

- Каб прывезці з Украіны, Польшчы, патрэбная валюта. Па курсе Нацбанка нам (недзяржаўным прадпрыемствам) яе не прададуць. А неафіцыйна-камерцыйны курс безнаяўнага долара пераваліў за 65 тысяч (афіцыйны амаль удвая меншы). Калі ж набудзем неяк валюту і прывязем тавар, яго сабекошт будзе вышэй за цану, па якой мы вымушаныя працаваць.

Ці з'явіцца ў продажы цукар у поўным аб'ёме, не ведае ніхто. І колькі будзе каштаваць - таксама. Дарэчы, чыноўнікі, камерсанты прадбачаць у хуткім часе знікненне з продажу алею і піва.

*Васіль САВІЦКІ.*

НА ГАЗЕТНЫМ РЫНКУ

## 17000000 з Валожына

***ВАЛОЖЫН.** Работнікі кіёскаў "Белсаюздруку" з сумам адзначаюць падзенне попыту на газеты і часопісы. За сакавік нераскупленых выданняў спісана на 17 мільёнаў рублёў.*

Толькі прадукцыя рэкламнага, дэтэктыўнага накірунку разыходзіцца поўнасцю. Менш за ўсіх цікавяцца друкаваным словам жыхары Ракава. Тамтэйшы кіёск самы маладаходны (яшчэ два ёсць у Валожыне, адзін - у Іванцы).

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

